Інфармацыйны бюлетэнь
# БАРМІЦА
www.barmica.org верасень 2005 г. barmica@tut.by бясплатна

Спецыяльны выпуск, прысьвечаны Кангрэсу дэмакратычных сілаў

# ЗВАРОТ КАНГРЭСА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛАЎ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

*Прэс-цэнтр Кангрэса дэмакратычных сілаў*




***Шаноўныя грамадзяне Беларусі! Браты і сёстры!***

Мы жывем у выдатнай краіне — Беларусі, з яе старажытнай гісторыяй, пявучай мовай, непаўторнай прыродай і ўнікальным месцам у сэрцы Еўропы. Нашы продкі перадалі нам славу сусветна прызнаных геніяў — першадрарукароў і вучоных, асветнікаў і паэтаў, традіцыі працавітасці і талерантнасці, мужнасці і гасціннасці. Праз войны і нястачы, праз суровыя выпрабавнні на цярплівасць і сумленнасць, папярэднія пакаленні нашых землякоў пранеслі святую мару аб волі і заможнасці, нацыянальнай дзяржаўнасці і роўнасці між народамі свету.

Цяпер лёс роднай Беларусі залежыць ад нас з вамі, ад нашай прынцыповасці і рашучасці, ад гатоўнасці кожнага: рабочага і інжынера, вяскоўца і афіцэра, прадпрымальніка і службоўца, настаўніка і студэнта — выбраць для любімай Бацькаўшчыны дэмакратычны і цывілізаваны шлях да светлай будучыні.

Мінулае дзесяцігоддзе, пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, не прывяло ні да ўсталявання сацыяльнай справядлівасці, ні да вяршэнства законаў, ні да згоды ў грамадстве. Кожны год нас робіцца меней на 50 000 чалавек. Не спыняецца рост цэнаў на прадукты і тавары першай неабходнасці. Павышаюцца тарыфы на камунальныя паслугі і праезд ва ўсіх відах грамадскага транспату. Медыцынскае абслугованне і адукацыя ўсё больш робяцца платнымі. У навучальны працэс уведзена так званая дзяржаўныя ідэлогія, цалкам скіраваная на вынішчэнне любой самастойнай думкі. Тэлебачанне і радыё захліснуў брудны паток хлусні і дэмагогіі. Беларусь аказалася ў ганебнай самаізаляцыі ад цывілізаванага свету.

Калі такое становішча будзе працягвацца і далей, нас з вамі чакае горкая доля міжнародных ізгояў, нявольнікаў на бацькоўскай зямлі, рабоў ва ўласным доме. Прыйшоў час дзейнічаць рашуча, мяняць стырнавых дзяржаўнага карабля. Хопіць моўчкі глядзець на самавольства чыноўнікаў і хлустню штатных прапагандыстаў! Мы заслужылі справядлівасць і праўду, строгае выкананне законаў і павагу да правоў усіх грамадзян.

Набліжаюцца чарговыя прэзідэнцкія выбары. У нас ёсць шанц замяніць карыслівы, некампетэнтны, ілжывы кіруючы клан на каманду сумленных, адукаваных, маральных людзей, сапраўдных патрыётаў Беларусі. Для гэтага нам трэба аб'ядначца і разам дамагчыся пераменаў.

На Кангрэсе мы абралі адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл. Наш кандыдат мае багаты жыццёвы і палітычны вопыт, дабразычлівы і прынцыповы характар, ён карыстаецца шырокай падтрымкай у нашай краіне і аўтарытэтам за межамі. Ён здольны стварыць урад, які павядзе Беларусь да сапраўднай незалежнасці, свабоды і дабрабыту, да ўзаемавыгадных дабрасуседскіх адносінаў з усім светам. У краіну вернецца павага да закону, усім грамадзянам будзе забяспечана магчымасць поўна праявіць свае здольнасці і веды, каб яны маглі атрымаць за сваю сумленную прафесійную працу справядлівую, сучасную аплату. Падтрымаем адзінага кандыдата! Разам нас многа. Разам мы пераможам — дзеля шчасця нашых дзяцей, нашай любай Беларусі!

**Разам – за Беларусь!**

# ЁН АБРАНЫ АДЗІНЫМ!

**За Мілінкевіча прагаласавалі 399 дэлегатаў, за Лябедзьку – 391. Такія вынікі другога туру галасаваньня.**

## Мілінкевіч Аляксандр Уладзіміравіч

Кіраўнік праграм Фонду спрыяння лакальнаму развіццю. Кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт. Беларус. Беспартыйны. Жанаты. Мае двух сыноў і ўнучку.

Мілінкевіч Аляксандр Уладзіміравіч нарадзіўся 25 ліпеня 1947 г. у Гродна ў праваслаўнай сям"і. Ягоны прадзед і прапрадзед былі паўстанцамі Кастуся Каліноўскага 1863 года, рэпрэсаванымі царскім самадзяржаўем. Дзед - актывіст беларускага руху 1920-х гадоў на Гродзеншчыне. Бацька - заслужаны настаўнік БССР.



У 1965 годзе скончыў школу з залатым медалём, а ў 1969 годзе з адзнакай фізіка-матэматычны факультэт Гродзенскага педінстытута. Працаваў настаўнікам у Гродна. Пасля сканчэння аспірантуры Інстытута фізікі АН БССР у 1972 годзе, працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам.

У 1976 абараняе дысертацыю па тэме "Мэханізм генэрацыі звышмагутных лазэрных імпульсаў" і вяртаецца ў Гродна, дзе працуе інжынерам і выкладчыкам педінстытута. З 1978 па 2000 год - дацэнт фізічнага факультэта Гродзенскага ўніверсітэта. З 1980 па 1984 год - загадчык кафедры фізікі ў Сеціфскім універсітэце (Алжыр).

У 1990-1996 гады Аляксандр Мілінкевіч працаваў намеснікам старшыні Гродзенскага гарвыканкама, займаўся пытаннямі адукацыі, культуры, аховы здароўя, моладзі, спорту, СМІ, рэлігіі, міжнародных зносін і аховы гістарычнай спадчыны.

З 1996 года - старшыня Гродзенскага грамадскага аб"яднання «Ратуша», якое было ліквідавана уладамі ў 2003 годзе.

У 2001 годзе - кіраўнік выбарчай кампаніі кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Сямёна Домаша. У 2003 годзе - кіраўнік праграм Фонду спрыяння лакальнаму развіццю.

Стажараваўся ва ўнівэрсітэце Манпэльe (Францыя) і Каліфарнійскім унівэрсітэце (ЗША), Польшчы па праблемах мясцовага самакіравання, дзяржаўнага будаўніцтва, эканамічных рэформаў і правоў чалавека, вывучаў сучасныя метады адукацыі ў Вялікабрытаніі і досвед развіцця спорту ў Канадзе.

Прайшоў курс навучання вышэйшага кіруючага складу ў Еўрапейскім цэнтры праблем бяспекі (ФРГ). Стажыраваўся ва ўстановах Еўрасаюза па пытаннях яго функцыянавання і пашырэння (Бельгія, Галандыя, Францыя).

Выступаў з аналітычнымі дакладамі ў Еўрапарламенце і Еўракамісіі.

Ведае 5 моваў.

Вядомы краязнаўца і гісторык. На працягу 10 гадоў быў аўтарам і вядучым гістарычнай праграмы па гісторыі краю на гарадзенскім тэлебачанні. Займаўся аднаўленнем Гродзенскага вежавага гадзінніка - аднаго з найстаражытнейшых гадзіннікаў Еўропы (XV—XVI ст.).

Ініцыятар пошуку і вывучэння рэшткаў пахавання апошняга Караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Сябра Міжнароднай Федэрацыі Журналістаў.

У 1968-1969 годзе Аляксандар Мілінкевіч быў чэмпіёнам БССР па баскетболу. У 1996-1997 годзе прэзідэнт баскетбольнага клубу «ГРОДНА-93» - шматразовага чэмпіёна краіны.

Аўтар 65 навуковых прац і манаграфій па квантавай электроніцы, лазернай тэхніцы, гісторыі, культуры, адукацыі, архітэктуры Беларусі.

Узнагароджаны ордэнам «За заслугі перад польскай культурай». Лаўрэат Міжнароднай прэміі Незалежнага Фонду «PolCul»

# Ці мае Аляксандар Мілінкевіч шанцы на перамогу ў прэзыдэнцкіх выбарах?

Аб'яднаныя дэмакратычныя сілы Беларусі вылучылі Аляксандра Мілінкевіча адзіным кандыдатам на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах 2006 году. Ці мае Аляксандар Мілінкевіч шанцы на перамогу ў прэзыдэнцкіх выбарах? Гэтае пытаньне мінакам на вуліцах сталіцы задавала наша карэспандэнтка.

**(Карэспандэнтка: )** "Ці мае Аляксандар Мілінкевіч шанец на перамогу ў прэзыдэнцкіх выбарах?"

**(Спадар: )** "Так, шанец мае, але я думаю, што выбары будуць сфальшаваныя й ніякай магчымасьці на пераабраньне прэзыдэнта ня будзе".

**(Спадарыня: )** "Я мяркую, што ён ніякага шанцу ня мае перамічы з тае прычыны, што раўназначнай асобы цяперашняму прэзыдэнту я ў сучаснай партыйнай эліце ня бачу".

**(Юнак: )** "Калі выбары будуць справядлівымі, дык мае. А калі як заўсёды — дык не, зразумела".

**(Юначка: )** "Ну, ніхто ж яшчэ ніколі не перамог, акрамя прэзыдэнта цяперашняга. Нерэальна перамагчы".

**(Спадар: )** "Я думаю, што ніякіх шанцаў гэты чалавек ня мае, бо я пра яго чую ўпершыню. І ніколі ня чуў ні па тэлебачаньні, ні па радыё ні яго, ні ягоных паплечнікаў. А таму думаю, што толькі наш прэзыдэнт Лукашэнка мае шанцы, каб яго выбралі яшчэ раз".

**(Спадар: )** "У нашай краіне ў дэмакратычных сілаў шанцаў практычна няма. Я думаю, што цяпер усё робіцца для таго, каб дэмакратыя ў нашай краіне адпачывала".

**(Спадарыня: )** "Думаю, што не. Ці пасадзяць, ці прыбяруць — адназначна. Думаю, што ў нашага прэзыдэнта загадзя ўсё ўжо падлічана і прадумана".

**(Спадарыня: )** "Так, можа перамагчы. Бо ў нашай краіне вельмі шмат таго, што не падабаецца людзям. Чалавеку ўвогуле нельга так доўга знаходзіцца на прэзыдэнцкай пасадзе. І ўся ўлада ня можа так доўга знаходзіцца ў адных руках"

**(Спадар: )** "Безумоўна, мае шанец. Тут трэба ўлічваць ягоны радавод — гэта патомны беларус, продкі якога былі зьвязаныя з нацыянальна-вызвольным рухам. Па-другое, трэба ўлічваць ягоную выдатную адукацыю, вопыт працы на розных пасадах, у тым ліку ў дзяржаўных і грамадзкіх арганізацыях. І па-трэцяе, мне здаецца, што гэта сыстэмны, удумлівы і дальнабачны чалавек. І думаю, што разам зь ім Беларусь будзе жыць".

*Галіна Абакунчык, Менск*

# На Кангрэсе дзяржаўная тэлевізія заўважыла «сэксуальны скандал»

Першым на правядзеньне Кангрэсу дэмсілаў у Менску адгукнуўся рэпартажам беларускі дзяржаўны тэлеканал ОНТ. Сюжэт пра Кангрэс ішоў адразу пасьля рэпартажу пра гей-парад на Тайвані.

Вядоўца інфармацыйнага выпуску "Нашы навіны" Аляксандар Аверкаў прамовіў у эфіры: "З сэксуальнага скандалу пачаўся сёньня ў Менску збор беларускай апазыцыі, які яго арганізатарамі называюць Кангрэсам дэмакратычных сілаў. Грамадзкасьць і прэса не праявілі б да мерапрыемства асаблівай увагі, калі б да барацьбы беларускіх дэмакратаў не далучыліся таварышы нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі".

Паводле карэспандэнта ОНТ, менавіта прадстаўнікі сэкс-меншыняў стварылі адзіную інфармацыйную нагоду для паведамленьняў пра Кангрэс. Маўляў, шырокія пратэстныя масы не прыйшлі да месца правядзеньня Кангрэсу. "Замест пакрыўджанага рэжымам рабочага клясу, прыцісьнутай студэнцкай моладзі, падтрымаць ідэйных натхняльнікаў барацьбы за сьветлае будучыню беларускага народу прыбылі прадстаўнікі сэкс мяншыняў - электаральная падтрымка адзінага кандыдата", – распавядаў аўтар рэпартажу. Далей "Нашыя навіны" паказалі буйным плянам двух прадстаўнікоў актораў, якія выступаюць за аднаполыя шлюбы. У рэпартажы ОНТ былі пададзеная абуральная рэакцыя мінакоў. Прадстаўнік менскай міліцыі сказаў тэлеканалу ОНТ, што міліцыя "ў іх справы ня ўмешваецца, гэта не наша задача. Хто там да іх прыходзіць, чырвоныя, блакітныя, зялёныя – нас гэта ня тычыцца. Мы ажыцьцяўляем ахову грамадзкага парадку".

Паводле карэспандэнта ОНТ, паседжаньне Кангрэсу "больш было падобна на пленум былой КПСС, усё тыя ж нязьменныя лідэры партый і рухаў, некаторым зь якіх пад 70 гадоў, усё той жа сплянаваны рэглямэнт і чытаньне з трыбуны раней падрыхтаваных тэкстаў".

Таксама ОНТ паведаміла, што, быццам, пад эгідай НАТО ў Вільні адбылася рэпэтыцыя Кангрэсу і практычна ўсе сябры прэзыдыюму прайшлі там інструктаж. А ўчора трымалі нараду ў рэзыдэнцыі амэрыканскага пасла ў Беларусі.

Тым часам у інтэрвію агенцыі БелаАПАН адзін з лідэраў руху асобаў нетрадыцыйнай сэксуальнасьці Эдвард Тарлецкі катэгарычна абверг датычнасьць яго руху да акцыі, пададзенай на тэлеканале ОНТ, якую ён назваў правакацыяй. Паводле Тарлецкага, да яго цягам чатырох дзён да Кангрэсу зьвярталіся прадстаўнікі беларускага тэлебачаньня з просьбай даць інтэрвію, на якое ён не пагадзіўся. Паводле Э. Тарлецкага, тое, што, быццам бы, прадстаўнікі сэкс-мяншыняў правялі перад Кангрэсам акцыю - гэта правакацыя".

Падчас прэсавай канфэрэнцыі Станіслаў Шушкевіч так адрэагаваў на пытаньні карэспандэнтаў дзяржаўных тэлеканалаў: "Што ў каго баліць, той пра тое і пытаецца".

*Алесь Дашчынскі, Менск*

# Украінскія СМІ: "Беларусы выбралі будучага Юшчанку"

Юры Сьвірко, Кіеў Пад такім загалоўкам паведаміла вынікі Кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі папулярнае інтэрнэт-выданьне "Украінская праўда", якому распавядаў пра кангрэс адзін зь яго гасьцей – дырэктар кіеўскага міжнароднага інстытуту дэмакратыі Сяргей Таран.

Штогадзіны ў нядзелю пра ход кангрэсу паведамляў украінскі 5-ты тэлеканал, чыя карэспандэнтка працавала ў Менску. Праўда, і вядучы ўчора ў эфіры, і сайт каналу сёньня заявілі, што "Алесь Мілінкевіч – прадстаўнік трэціх сілаў, г.зн. прадпрымальнікаў".

Украінскія палітыкі ня вельмі актыўна камэнтуюць беларускія падзеі. Афіцыйныя прадстаўнікі на вынікі кангрэсу ніяк не адгукнуліся. Прэзыдэнцкая партыя – Народны саюз "Наша Украіна" – паведаміла, што на кангрэсе ў Менску быў сябра яе рады й кіраўнік юрыдычнага дэпартамэнту цэнтральнага выканкаму Алег Бойка, які зазначыў: "Эфэктыўнасьць кампаніі апазыцыйнага кандыдата на прэзыдэнта залежыць ад адзінства апазыцыі й выбару народу".




Яшчэ адзін украінскі госьць кангрэсу – сябра палітрады Грамадзянскае партыі "Пара" Сяргей Еўтушэнка – высока ацаніў сам факт правядзеньня сходу ды выбар яго дэлегатаў. Паводле спадара Еўтушэнкі, "Пара" з боку ўкраінскае дэмакратыі засьведчыла сваю салідарнасьць зь беларускім кангрэсам і гатовая даваць беларускай апазыцыі кансультацыі й тэхнічную дапамогу. Ён дадаў, што выбары прэзыдэнта Беларусі будуць вызначальнымі для далейшага лёсу дзяржавы, бо "ад гэтага будзе залежаць, ці ўвойдзе Беларусь у трэцюю хвалю пашырэньня Эўрапейскага Зьвязу або й надалей будзе заставацца ў цісках таталітарнага рэжыму". Сяргей Еўтушэнка таксама выказаў перакананьне, што ўкраінская ўлада павінна заняць больш жорсткую пазыцыю наконт рэжыму Аляксандра Лукашэнкі, які "будзе рабіць усё магчымае для ўтрыманьня ўлады".

А моладзевая арганізацыя "Нацыянальны альянс", пяцёра сяброў якой адседзелі ў Менску некалькі сутак пасьля "Чарнобыльскага шляху", вітала перамогу спадара Мілінкевіча й пажадала яму ўпэўненай перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах. "Абраўшы адзінага кандыдата, беларуская дэмакратычная грамадзкасьць паказала, што для яе інтарэсы Беларусі вышэйшыя за ўласныя інтарэсы і амбіцыі", – гаворыцца ў заяве "Нацыянальнага альянсу", які выказаў спадзяваньне, што абраньне адзінага кандыдата стане пераломным момантам у сучаснай гісторыі Беларусі й пакладзе пачатак працэсу вяртаньня дзяржавы да дэмакратычнага шляху разьвіцьця. "Нацыянальны альянс" таксама пажадаў Аляксандру Мілінкевічу кіравацца ў сваёй дзейнасьці нацыянальнай ідэяй. "Разам – Вы сіла! Жыве Беларусь!" – гэткімі словамі заканчваецца заява арганізацыі.

## Вінцук Вячорка: "Кангрэс адбыўся як легітымны форум



Адзін з арганізатараў Канрэсу дэмакратычных сіл Беларусі лідэр Партыі БНФ Вінцук Вячорка зазначыў, што ён задаволены перш за ўсё тым, што форум адбыўся як легітымная ў вачах беларускай і міжнароднай дэмакратычнай грамадзкасьці падзея.

(Вячорка: ) "Аргкамітэт на чале з Аляксандрам Бухвоставым спрацаваў проста выдатна. Былі асобныя палітычныя недарэчнасьці, быў адзін недарэчны канфрантацыйны выступ у першы дзень кангрэсу. Але, як заўсёды, на такіх вялікіх форумах бываюць пэўныя непрадказальныя рэчы. Рады, што былі знаныя людзі, рады, што былі людзі, якіх называлі так званымі індывідуальнымі прэтэндэнтамі – яны прыйшлі і выступілі, не пярэчачы самой сутнасьці правядзеньня кангрэсу.

Гэта ўсё ўнёсак у сапраўдную шырокую кансалідацыю. Ну, і як лідэр партыі БНФ, я вельмі ўсьцешаны, што наша стаўка на чалавека, які падзяляе беларускія каштоўнасьці і адначасова валодае моцным кааліцыйным патэнцыялам, апраўдалася".

*Валер Каліноўскі, Менск*




# Павал Севярынец заклікаў дэмакратаў згуртавацца

Вядомы беларускі палітык Павал Севярынец, які адбывае пакараньне абмежаваньнем волі ў адным з глухіх куткоў Полаччыны, выступае супраць спробаў рэвізіі вынікаў Кангрэсу дэмсілаў і заклікае дэмакратаў згуртавацца вакол адзінага кандыдата.

**(Севярынец: )** "Абраньне адзінага кандыдата я ацэньваю вельмі і вельмі станоўча. Мне здаецца, што гэта першы крок з сэрыі вырашальных, якія могуць прывесьці да прамогі. Падкрэсьліваю, могуць — толькі тады, калі будзе ўнутранае адзінства. І ня толькі паводле літары, але й паводле духу".

Так ахарактарызаваў Павал Севярынец вынікі Кангрэсу дэмакратычных сілаў. Як высьветлілася, ён уважліва сачыў за яго ходам, знаёмы з усімі пэрыпэтыямі і з усім тым, што адбываецца пасьля яго заканчэньня. Паводле Паўла, самае небясьпечнае сёньня — гэта спробы рэвізіі вынікаў кангрэсу, якія маюць месца ў шэрагу партыйных структураў. Калі такіх тэндэнцыяў своечасова не спыніць, дэмакраты замест адзінства (Павал ужыў рэаліі таго месца, дзе адбывае "хімію") чарговы раз рынуць хто ў мох, хто ў алешнік. Гаворыць Павал Севярынец:

**(Севярынец:)** "Усе спробы рэвізаваць хаду Кангрэсу, ягоныя вынікі і мэханізм яго правядзеньня мне падаюцца абсалютна неканструктыўнымі. Яны будуць толькі шкодзіць агульнай працы, і цяпер практычна ўсім кандыдатам у прэзыдэнты, якія зьбіраюцца ісьці на выбары самастойна, аднаасобна, можна параіць толькі адно: узгадняць свае пазыцыі з адзіным кандыдатам, падтрымліваць адзінага кандыдата, патрабаваць ад яго выкананьня часткі сваіх праграмаў, нейкіх абавязкаў, якія бяруць на сябе гэтыя кандыдаты. Гэта прынцыповы момант, і тут, як мне здаецца, ня можа быць ніякага гандлю".

Нагадаем, што Павал працуе на лесапункце, што месьціцца на станцыі Алёшча Полацкага раёну. Нядаўна лесапункт ледзь не згарэў. Сярод ночы, праўдападобна, у выніку кароткага замыканьня, занялася агнём піларама. Сама яна згарэла дашчэнту, але астатнія пабудовы і мэханізмы ўдалося ўратаваць. Пра падзеі, што адбыліся апошнім часам у жыцьці самога "палітхіміка", распавёў ён сам:

**(Севярынец: )** "Пяць дзён я быў у Віцебску, якраз гэтым часам сачыў за ходою кангрэсу: тэлефанаваў сваім калегам з "Маладога фронту". За гэты час прыйшло багата лістоў, у нядзелю чакаю прыезду некалькіх дэлегацыяў зь Менску і Віцебску. Пераехаў у інтэрнат, у пакой на чатырох чалавек — там усе "хімікі", маладыя людзі. Перанёс рэчы... у асноўным, займаўся гэтым".

***Вінцэсь Мудроў, Алёшча, Полацкі раён***

# Аляксандар Мілінкевіч зьвярнуўся да кіраўнікоў органаў улады



Адзіны кандыдат ад апазыцыі на прэзыдэнцкіх выбарах зьвярнуўся да старшыняў Вярхоўнага суду і КДБ Беларусі, генэральнага пракурора і міністра ўнутраных справаў.

Аляксандар Мілінкевіч падзякаваў супрацоўнікам міліцыі, кіраўніцтву Менскага аўтамабільнага заводу і Палацу культуры МАЗу за тое, што Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі 1—2 кастрычніка прайшоў без сур'ёзных інцыдэнтаў ды выказаў спадзяваньне, што "з боку органаў улады ня будзе ніякага перасьледу ўдзельнікаў кангрэсу, у тым ліку звальненьняў з працы і выключэньня з навучальных установаў"

"Лічу, і надалей улады не павінны змагацца з народам Беларусі ў яго імкненьні да свабоды, незалежнасьці, дэмакратыі і дабрабыту нашай дзяржавы", — зазначыў лідэр апазыцыі.

Пры гэтым спадар Мілінкевіч заявіў, што "на вялікі жаль, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыіі падалі ў сваіх рэпартажах інфармацыю пра кангрэс неаб'ектыўна, скарыстаўшы дробныя правакацыі дзеля спробаў дыскрэдытацыі сотняў сумленных грамадзянаў Беларусі, што прысутнічалі на кангрэсе".



## Джордж Крол: абраньне адзінага кандыдата – вялікі посьпех

Ул. інф.

Пасол ЗША у Беларусі Джордж Крол прысутнічаў на Кангрэсе дэмакратычных сілаў у якасьці назіральніка.

Камэнтуючы вынікі Кангрэсу для прэс-цэнтру Хартыі-97, Джордж Крол заявіў: “Я лічу, што выбары адзінага кандыдата – гэта празрысты дэмакратычны працэс. Думаю, гэта ўжо вялікі посьпех, што аб’ядналіся палітычныя партыі і арганізацыі. Цяпер павінен быць зроблены наступны крок – аб’яднаньне з народам, наколькі гэта магчыма ў цяжкіх беларускіх умовах”.



## Януш Анышкевіч: З гэтым кандыдатам трэба прайсьці да канца

Віцэ-спікер Эўрапейскага парлямэнту Януш Анышкевіч, які накіраваў удзельнікам Кангрэсу адмысловы ліст, пракамэнтаваў для “Радыё Свабода” абраньне адзінага кандыдата наступным чынам: “Мне падаецца, што гэта вельмі і вельмі важна, перадусім таму, што ўсе тыя, хто жадае дабра Беларусі, беларускай дэмакратыі, хацелі мець адзінага партнэра для размоваў. Раней іх было шмат, а цяпер ёсьць шанец на тое, што сытуацыя зьменіцца. Я кажу шанец, бо з гэтым кандыдатам яшчэ трэба прайсьці да канца. Як я напісаў у звароце да дэлегатаў, трэба сканцэнтравацца вакол гэтага кандыдата, каб пазьбегнуць уплыву магчымых асабістых расчараваньняў сярод тых, хто ня быў абраны, на працэс аб’яднаньня і быць здольнымі кінуць пальчатку спадару Лукашэнку. Маю надзею, што пасьпяхова”.



## Мадлен Олбрайт зьвярнулася да ўдзельнікаў Кангрэсу

Былая Дзяржсакратар ЗША, старшыня Нацыянальнага дэмакратычнага інстытуту Міжнародных адносінаў Мадлен Олбрайт павіншавала ўдзельнікаў Кангрэсу дэмсілаў і вітала спосаб абраньня дэлегатаў на форум.

«Мы ня можам недаацаніць задачы, якую вы паставілі перад сабою. Наперадзе ў вас шмат цяжкасьцяў. Аднак упэўненая, што Беларусь чакае дэмакратычная, квітнеючая будучыня».

«Міжнародная супольнасьць дэмакратаў падтрымлівае тыя крокі, якія прывялі вас сюды, і заклікае вас і ваш урад прытрымлівацца стандартаў, да якіх прыйшлі краіны, што пераадолелі шлях дэмакратыі да вас».

Мадлен Олбрайт прыслала свой зварот на трох мовах: беларускай, расейскай і ангельскай.

# “Народная Воля” дайшла да падпісчыкаў

Падпісчыкі атрымалі чарговы нумар недзяржаўнай газэты “Народная Воля”. Ён прысьвечаны Кангрэсу дэмакратычных сілаў і адзінаму кандыдату на прэзыдэнта ад апазыцыі Аляксандру Мілінкевічу. Праз падпіску ў належныя тэрміны па краіне сёньня было распаўсюджана 16 тысяч асобнікаў “Народнай Волі”, яшчэ 11 тысяч асобнікаў накладу будуць раздадзены бясплатна.

Сёньня раніцай у кабінэце галоўнага рэдактара “Народнай Волі” Іосіфа Сярэдзіча ляжалі некалькі дзясяткаў стосаў са сьвежым нумарам газэты — усяго каля 11 тысяч асобнікаў. Гэтая частка накладу звычайна распаўсюджвалася праз сыстэму “Белсаюздруку”, які ў аднабаковым парадку скасаваў дамову з 1 кастрычніка.

Іосіф Сярэдзіч не хаваў радасных пачуцьцяў. Выхад “Народнай Волі” не ўдалося спыніць ні на адзін дзень, нягледзячы на ўсе перашкоды. 3 кастрычніка была заключаная дамова са Смаленскай друкарняй, у гэты ж дзень у Менску былі аформленыя ўсе неабходныя паперы ў банку і мытным камітэце, і ўжо ўчора ўвечары надрукаваны наклад прыбыў у Менск і праз сыстэму “Белпошты” сёньня раніцай быў разьвезены падпісчыкам па ўсёй Беларусі.

*Ганна Соусь, Менск*




Аляксандар Мілінкевіч з жонкай Інай

# ПАЛІТЫКІ ДЭМАНСТРУЮЦЬ АДЗІНСТВА

**Пасьля абвяшчэньня вынікаў другога туру галасаваньня, на сцэну падняўся Аляксандр Мілінкевіч. У якасьці адзінага кандыдата ён выступіў перад удзельнікамі Кангрэсу.**

Спадар Мілінкевіч заявіў, што вынікі галасаваньня – "гэта давер тых людзей, якія баяцца меней за ўсё ў Беларусі, якія самыя сьмелыя і на якіх можна пакласьціся ў цяжкай працы, якую я падзялю разам з вамі, каб зрабіць Беларусь свабоднай і дэмакратычнай краінай".

Мілінкевіч падзякаваў усім – і тым, хто галасаваў за яго, і тым, хто галасаваў заАнатоля Лябедзьку:

"Які б Мілінкевіч ня быў добры, ён не здабудзе перамогі, калі мы ня будзем разам намагаць свае высілкі. Наперадзе нас чакае цяжкая праца. Я не абяцаю перамогі, але сьвята веру ў перамогу. Я фізык і выдатна ведаю, што кожная зьява мае розныя складнікі, і калі адзін зь іх завалiцца, гэта перашкодзіць агульнай справе. Я пайду да канца, я вытрымаю, я не сыйду з дыстанцыі. Я пайду з вамі на плошчу. Я не лічу сябе лепшым, я – першы сярод роўных. Мне патрэбная ваша дапамога. Давайце будзе разам да канцы і я ўпэўнены, што мы дасягнем агульнай мэты, здабудзем нашую перамогу!"

Па сканчэньні прамовы на сцэну выйшлі іншыя прэтэндэнты – Сяргей Калякін, Станіслаў Шушкевіч і Анатоль Лябедзька. Яны павіншавалі Мілінкевіча і абняўшыся пазіравалі перад фотакамэрамі.

# Аляксандр Мілінкевіч:

## "У 2006-м Беларусь здабудзе свабоду назаўсёды"

Падчас сваёй прэзэнтацыі Аляксандр Мілінкевіч заявіў: "Я гатовы аддаць усе свае сілы, каб Беларусь была свабоднай і заможнай. Мы маем магчымасьць вярнуць краіне сьвятую Волю".

Ён прыгадаў сваю працу на пасадзе намесьніка старшыні Гарадзенскага гарвыканкаму: "Менавіта ў той час я навучыўся працаваць у камандзе і быць талерантным. У маёй камандзе працавалі як камуністы, так і дэмакраты".

Аляксандр Мілінкевіч перакананы: "Мы ня маем права губляць рэсурс часу. Хто б ня быў адзіным кандыдатам, я буду працаваць. А калі абяруць мяне, сам пайду наперадзе калёны на пляц".

Прэтэндэнт перакананы, што усёй каардынацыяй дзеяньняў падчас кампаніі мусіць займацца штаб адзінага кандыдата, а ня нейкія дадатковыя структуры. "Я прашу галасаваць за мяне толькі тых, хто за жалезную дысцыпліну, хто згуртуецца вакол штаба адзінага кандыдата. Не галасуйце за мяне тыя, хто за аморфныя структуры з размытымі паўнамоцтвамі", – сказаў ён.

Сваю прамову Аляксандр Мілінкевіч скончыў такімі словамі: "У 91-м Беларусь здабыла незалежнасьць, у 2006 здабудзем свабоду для Беларусі назаўсёды!

*Альгерд Невяроўскі, Менск*

# Александр Милинкевич: «Бороду сбривать не собираюсь»



Избранный 2 октября единым кандидатом в президенты от демократических сил, Александр Милинкевич пока еще мало знаком широкой публике. 58-летнего политика хорошо знают разве что жители его родного Гродно. Накануне своего отъезда в Прагу Александр Милинкевич познакомил «Белорусские новости» с некоторыми деталями своей биографии.

**О семье**

— Моя супруга Инна возглавляет фонд «Наша вежа». По первому образованию она дефектолог, кроме того, окончила магистратуру ЕГУ. У меня два сына — 31-летний Александр, юрист по образованию, и Витовт 16 лет (он учится в школе). Мои прадед и прапрадед вместе участвовали в восстании Калиновского. В результате лишились всего состояния. Мой дед в 20-е годы, когда Гродно входил в состав Польши, возглавлял влиятельную организацию «Таварыства беларускай школы». Память о славных предках придает мне решимости в борьбе за пост президента.

**О физике**

— В Гродненском университете я проработал в общей сложности 20 лет. Меня «ушли» в 2000 году, когда я возглавил предвыборный штаб кандидата в президенты Семена Домаша. Некоторое время проработал в Институте физики Академии наук. Защитил диссертацию на тему «Механизм генерации сверхмощных лазерных импульсов». С 1980 по 1984 годы преподавал физику в Сетифском университете в Алжире. До этого в течение года изучал французский, ведь занятия велись именно на этом языке. Я был назначен заведующим кафедрой, в подчинении у меня было 27 человек, причем половина из них — французы. Должен сказать, что эта поездка раскрыла мне глаза на многое: я понял, что мир совсем не такой, каким рисует его советская пропаганда.

**О краеведении**

— В течение 10 лет я вел на областном телевидении программу «Гарадніца», посвященную истории края. Был инициатором восстановления механизма башенных часов на гродненском Фарном костеле. Доказано, что эти часы — одни из старейших в Европе. Участвовал в экспедиции по поиску останков последнего короля Речи Посполитой Станислава Понятовского — белоруса по происхождению — в костеле святой Троицы в деревне Волчин под Брестом. Останки были обнаружены и перевезены в Варшаву. Мне вручили орден «За заслуги перед польской культурой».

**О Гродно**

— В начале 90-х я выступал с предложением воссоздать взорванную в 1962 году Фару Витовта. Тогдашний гродненский епископ Тадеуш Кондрусевич поддержал это начинание, но не было средств. Католическая церковь в тот момент возводила костелы на окраинах Гродно, а городской бюджет масштабное строительство не потянул бы. Я был председателем комиссии, которая занималась возвращением улицам Гродно их исторических названий. А на ту реконструкцию, которая происходит в городе сегодня, мне больно смотреть. Старинные улочки, которые можно было бы восстановить, безжалостно закатываются в асфальт.

**О баскетболе**

— В баскетбол я играл в течение 20 лет начиная со школы. По тем временам мог считаться профессионалом. После увольнения из горисполкома стал президентом баскетбольного клуба «Гродно-93». При мне клуб впервые стал чемпионом Беларуси.

**О предпочтениях в искусстве**

— Своим любимым писателем могу назвать Андрея Платонова. В белорусской литературе ближе всех мне Василь Быков. Очень люблю поэзию Рыгора Бородулина, горжусь, что знаком с ним лично. Из живописцев выделяю Рембрандта. Люблю классическую музыку — в частности, Моцарта и Бетховена.

**О вождении**

— Через два года исполнится 40 лет с тех пор, как я впервые сел за руль автомобиля. На машине я проехал через всю Европу. Будучи в Алжире, путешествовал на автомобиле по Сахаре. Это было в основном зимой, когда жара в пустыне спадала до 30 градусов.

**О вредных привычках**

— Не курю. Начал было в юности, но тренер по баскетболу пригрозил, что выгонит меня из команды. Выпиваю, но соблюдаю меру.

**О бороде**

— Несмотря на рекомендации некоторых имиджмейкеров бороду сбривать не собираюсь. Как-то во время агитации перед парламентскими выборами я приехал в одну из деревень под Гродно. Ходил по улице, разговаривал с людьми. Одна старушка поинтересовалась: «Сыночак, чаму ж ты бараду не зголіш?». «Ведаеце, жонцы падабаецца», — полушуткой ответил я. «Тады пакідай», — улыбнулась она.

**О будущем**

— Беларусь будет свободной страной — это неизбежно. Но я очень хочу, чтобы это произошло уже в 2006 году. Мне кажется, что для белорусов сейчас очень важны два слова, произнесенные некогда Папой Римским Иоанном Павлом Вторым: «Не бойтесь!».

***Виктор ПОЗДНЯКОВ***

Заснавальнік: грамадзянская ініцыятыва «Рэсурсовы цэнтар "Барміца"»
Адрас для допісаў: 211800 Глыбокае, а/с №2
e-mail: barmica@tut.by
http://www.barmica.org
Наклад: 299 паасобнікаў

Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі грамадскіх арганізацый, якія спрычыніліся да выдання бюлетэня.
Пад час укладання захоўваецца мова і правапіс арыгіналу.
Надрукавана на абсталяванні сяброў